# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

18.07.13-25.07.13 г.


## У БЕЛАРУСКІХ БАНКАЎ




СКОНЧЫЛІСЯ ГРОШЫ?

СТАР. 4-5

## НА ПАРОЗЕ



НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАТАСТРОФЫ

СТАР. 6

# СТРАТЭГІЧНАЯ ПАСТКА

## Вось і скончыўся чарговы (ужо шосты) візіт Аляксандра Лукашэнкі ў Кітайскую Народную Рэспубліку.

### ІЗНОЎ ДЭЖА-ВЮ

Калі верыць афіцыйным сродкам масавай інфармацыі, кожны з гэтых вяжоў прыносіў беспрэцэдэнтныя вынікі. Здаецца, не была выключэннем і цяперашняя паездка: "сапраўдным прарывам" дзяржпрапаганда назвала падпісанне дэкларацыі пра стратэгічнае партнёрства паміж нашай краінай і Кітаем.

Аднак чаму ўзнікае ўстойлівае адчуванне "дэжа вю"? Заходзім на прэзідэнцкі сайт, знаходзім паведамленне пра візіт Лукашэнкі ў Пекін, які датаваны 2005 годам, і бачым наступныя радкі: "В ходе визита Главы белорусского государства в Китай в 2005 году страны заявили о выходе на уровень стратегического партнерства, что было закреплено в совместной декларации".

Такім чынам, бакі, па сутнасці, паўтарылі тое, што ўжо было агучана восем гадоў назад. Пэўна, тое "стратэгічнае партнерства" аказалася такім "паспяховым", што пра яго ўсе забыліся.



*Кітай далёка. Як і наша з ім шчасце*

А яшчэ паспрабуйце знайсці істотную розніцу паміж дзвюма заявамі Лукашэнкі:

"Коль вы идете в Европу, то приходите в центр Европы. Мы будем вам активно помогать и поддерживать в Беларуси" (2010);

"Эта страна (Кітай. – Заўв. аўт.) должна идти в Европу. Мы готовы способствовать этому, прежде всего экономически" (2013).

### НЕ ПА СЕНЬКУ ШАПКА

Наогул жа Лукашэнка прапаноўвае Кітаю Беларусь у якасці "плацдарма", або "фарпоста" ў Еўропе яшчэ з сярэдзіны 90-х гадоў мінулага стагоддзя.

*Заканчэнне на стар. 3*

**ДАРЭЧЫ**

### А ВОСЬ ГЭТА АДНАЗНАЧНЫ ПЛЮС

Кітай запрасіў 200 беларускіх дзяцей з рэгіёнаў, якія пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС, на аздараўленне летам 2014 года. Аб гэтым гаворыцца ў сумеснай дэкларацыі аб устанаўленні ўсебаковага стратэгічнага партнёрства, падпісанай сёння ў Пекіне па выніках перагавораў лідараў дзвюх краін Аляксандра Лукашэнкі і Сі Цзіньпіна, перадае карэспандэнт БЕЛТА. Беларусь і Кітай дамовіліся прыкласці вялікія намаганні для развіцця шматпланавага гуманітарнага супрацоўніцтва ва ўсіх сферах і на розных узроўнях. Кітайскі бок вітаў павелічэнне колькасці беларускіх студэнтаў, якія вучацца ў Кітаі, і падтрымаў пашырэнне выкладання кітайскай мовы ў Беларусі.

«Бакі гатовы ў далейшым прымаць эфектыўныя меры па садзейнічанню і спрашчэнню ўзаемных паездак грамадзян, абароне бяспекі, законных правоў і інтарэсаў грамадзян і юрыдычных асоб іншай краіны на сваёй тэрыторыі, ствараючы больш спрыяльныя ўмовы для паглыблення супрацоўніцтва і абменаў паміж Беларуссю і Кітаем у розных сферах», - адзначаецца ў сумеснай дэкларацыі.

**НАВІНА**

## АБ ПРЫСУДЗЕ АЛЯКСЕЮ НАВАЛЬНАМУ

**Тыя дзеячы, ад якіх сыходзіць небяспека беларускаму рэжыму, павінны сабе зрабіць высновы з таго, што сталася. Іх прыватная актыўнасць кантралюецца спецслужбамі, і нейкія іх рызыкоўныя ініцыятывы могуць стаць падставай для крымінальнага пераследу.**

Што тычыцца пазіцыі беларускай улады, то, наадварот, гэты прысуд яна можа выкарыстаць для таго, каб падкрэсліць сваю цяперашнюю памяркоўнасць на фоне палітычных нораваў усходняй суседкі.

Пасаджэнне папулярнага апанента ўладаў у турму па эканамічным артыкуле цяжка назваць нечым новым -- многія ўсходнееўрапейскія аўтарытарныя рэжымы практыкуюць гэта. Лукашэнка заўтра не кінецца пераймаць гэта ў Пуціна. Гэта рабілася і раней.

Хутчэй гэта паказвае, што пабудаваныя ў «саюзнай дзяржаве» палітычныя сістэмы далёкія ад крызісу. Можна садзіць на доўгі тэрмін Навальнага або Статкевіча без небяспекі маштабных пратэстаў. На вялікі жаль, кар'ера сапраўды апазіцыйнага палітыка на гэтым абшары непарыўна звязана з крымінальным пераследам і турмой.

**ВАЛЕРЫЙ БУЛГАКАЎ, РЭДАКТАР ЧАСОПІСА ARCHE**

# ЯК ХУТКА ЎСТАЛЮЕЦЦА ПАРАДАК У НАШАЙ БУДАЎНІЧАЙ ГАЛІНЕ?

Кабякоў даручыў да 1 кастрычніка ўрэгуляваць у Беларусі суадносіны колькасці будаўнікоў і прадстаўнікоў адміністрацыйна-кіраўніцкага апарату. Наколькі гэта рэальна ўвогуле і калі можна будзе пабачыць гэты цуд, абмяркоўвалі эксперты "Тут і цяпер".

**КАНСТАНЦІН СТЭФАНОВІЧ, БУДАЎНІК СА СТАЖАМ:**
### "НА АДНАГО РАБА ТРЫ ПРАРАБЫ".

– Дзікаватыя суадносіны паміж колькасцю будаўнікоў і іх начальнікаў і за савецкім часам былі... Як казалі тады, на аднаго раба тры прарабы. Сёння на аднаго прараба прыпадае недзе дваццаць-трыццаць работнікаў. Але ж над прарабам яшчэ ПТА, бухгалтэрыя, начальнік участка, начальнік БУ і гэтак далей. А калі ёсць начальнік, то ёсць і офіс; калі ёсць офіс, то ёсць і прыбіральшчыца. Калі б былі канкрэтныя лічбы, якія можна было б прааналізаваць… Але ж хто іх раскрые? У будоўлі дрэнна, а хіба ўсё астатняе ў нас добрае — ахова здароўя, сельская гаспадарка… Гэта хворыя месцы грамадства. Любая камандна-адміністрацыйная сістэма нясе на сабе адбітак савецкага часу і пакутуе ад гэтага.

**АЛЯКСЕЙ ЯНУКЕВІЧ, СТАРШЫНЯ ПАРТЫІ БНФ:**
### "МЯНЯЦЬ ТРЭБА ЎСЮ СІСТЭМУ".

– Насамрэч пытанне аб тым, як хутка ўсталюецца парадак, амаль што рытарычнае. Я думаю, што адміністрацыйны апарат неабходна скарачаць ва ўсіх сферах, тым больш у будаўніцтве. Таму што будаўнікоў — такіх, якія рэальна працуюць, не хапае. А тых, хто кантралюе і нібыта арганізоўвае гэтую работу, ужо занадта. Таму і ўзнікаюць пытанні накont тэрмінаў і якасці будаўніцтва; многія будаўнікі проста з'язджаюць з Беларусі ў тую ж Расію, дзе менш бюракратыі і вышэйшыя заробкі. Я думаю, што цяпер, калі Аляксандр Лукашэнка закрануў гэтую тэму, пэўныя скарачэнні адбудуцца. Пад яго кантролем. Аднак слаба верыцца, што ў гэтай галіне будзе ўсталяваны належны парадак. Спачатку трэба ў корані змяніць гэтую сістэму.

**АФІЦЫЙНА**

**Паводле інфармацыі начальніка аддзела Камітэта дзяржаўнай бяспекі Аляксандра Сівачэнкі, на будаўнічых пляцоўках Мінска на канец 2012 года працавалі каля 10 тыс. чалавек рабочых спецыяльнасцей, а колькасць апаратных работнікаў і вытворчага персаналу складала крыху больш за 7 тыс. Гэта значыць на траіх чалавек, якія працавалі непасрэдна на будпляцоўцы, прыпадала каля двух чалавек адміністрацыйна-кіраўнічага апарату.**

**«Такім чынам, ёсць арганізацыі, у якіх на рабочых прыпадае надта шмат астатніх работнікаў. Так быць не павінна, з гэтым неабходна заканчваць», — падкрэсліў Андрэй Кабякоў. Кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта даручыў членам рабочай групы да 25 ліпеня бягучага года вызначыць колькасць персаналу асноўных айчынных будтрэстаў, правесці іх аналіз і пры неабходнасці давесці паказчыкі суадносін колькасці рабочых і работнікаў адміністрацыйна-кіраўніцкага апарату да устаноўленых норм. «Да 1 кастрычніка гэтага года гэтыя суадносіны павінны быць цалкам прыведзены ў адпаведнасць з існуючымі нарматывамі», - заявіў старшыня рабочай групы.**



*Не да ўсмешак*

**АНТОН АСТАПОВІЧ, СТАРШЫНЯ ТАВАРЫСТВА АХОВЫ ПОМНІКАЎ АРХІТЭКТУРЫ:**
### "ПРАРАБАЎ З ІНЖЫНЕРАМІ НЕ СКАРОЦІШ".

– Я не магу, вядома, гаварыць пра ўсю будаўнічую галіну, але ж я выдатна ведаю галіну архітэктурную. Сапраўды, вельмі часта ў нас на купку архітэктараў-практыкаў прыпадае вялікі штат кіруючых работнікаў. Бухгалтары, эканамісты... Бываюць такія сітуацыі, калі рэальную работу па замове выконваюць два ці тры архітэктары ды яшчэ канструктар, а вакол іх "харчуецца" яшчэ чалавек дзесяць баласту — група інжынірынгу, якая не робіць ні халеры. У будаўнічых дзяржаўных арганізацыях, па вялікім рахунку, штаты вельмі раздутыя. Там засталася неэфектыўная савецкая сістэма: вялікія штаты экспертыз, дзяржбуднагляды. Гэта ж усё кіраўнікі ў будаўніцтве! Канечне, прарабаў і інжынераў не скароціш. Трэба рэфармаваць усю будаўнічую галіну — пераходзіць на заходнія стандарты. Але шашкай гэта не разрубіш.

**ІРЫНА МЯСНІКОВІЧ, ПРАДПРЫМАЛЬНІЦА:**
### "ГЭТЫЯ ПАРАДАК НЕ НАВЯДУЦЬ НІКОЛІ".

– Я не ведаю, ці нармальныя такія суадносіны ў гэтай галіне, але яны ніколі не навядуць парадак. Там не патрэбен іх парадак. У любой арцелі гадоў 500 назад проста не магло быць беспарадку. Кожны ведаў, што рабіць: хто цвікі забіваў, хто цэглу клаў, а хто кіраваў. Піраміды людзі пачалі будаваць 5000 гадоў таму і ўжо мелі такія ж праблемы. Але старажытныя егіпцяне гэтае пытанне вырашылі, у адрозненне ад сучасных адукаваных беларусаў. Да тае пары, пакуль у нас будуць устанаўліваць цэны на цукар, нам парадак не навесці. І нават Савецкі Саюз, які ўсё ўстанаўліваў, дрэнна скончыў.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

# СТРАТЭГІЧНАЯ ПАСТКА

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Аднак тое, што адбываецца, нагадвае таптанне на месцы без асаблівых вынікаў.

Усе спробы цяперашняга кіраўніка Беларусі ўсталяваць эксклюзіўныя адносіны з КНР аказаліся марнымі. Дарэчы, "Тут і цяпер" пра гэта папярэджвала, напрыклад, пра бессэнсоўнасць спроб уклініцца ў расійска-кітайскія адносіны.

— Между Китаем и Россией наметилась тенденция тесного сотрудничества, — казаў Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы з дзяржсакратаром так званай Саюзнай дзяржавы Рыгорам Рапотам. — Хотелось бы, чтобы мы в этом большом сотрудничестве огромных государств не были лишней шестерёнкой. Мы хотели бы, чтобы Беларусь была востребована на оси "Москва — Пекин".

## ДЫВІДЭНДЫ – НЕ НАМ…

Наша выданне тады спрагназавала: "Насамрэч, складана весці гаворку нават пра шчыльнае супрацоўніцтва паміж Расіяй і Кітаем, бо шмат у якіх пытаннях інтарэсы гэтых дзяржаў не супадаюць. Далучэнне ж Мінска да неіснуючай восі "Масква — Пекін" наогул смеху вартае. Лукашэнка хоча змяніць ролю «лішняй шасцярні» на статус «пятага кола» ў расійска-кітайскай драбіне, але яго прапановы нават разглядацца не будуць буйнымі гульцамі праз абсалютную іх бессэнсоўнасць".

І сапраўды, гэтая ідэя загінула яшчэ да таго, як Рапота пакінуў рэзідэнцыю Лукашэнкі. Водгуку ні з Масквы, ні з Пекіна яна не атрымала.

Разлікі ж на тое, што Кітай возьме на сябе ролю яшчэ аднаго спонсара Беларусі, спраўдзіліся з дакладнасцю да наадварот. Дывідэнды ад двухбаковых адносін атрымлівае галоўным чынам КНР. Гандаль паміж краінамі — гэта на 80% кітайскі экспарт у Беларусь. Нашы ж дасягненні выглядаюць надта сціплымі. Напрыклад, паводле слоў эканаміста Леаніда Заікі, МАЗаў у Кітай мы летась прадалі ажно 17 штук.

Пекін прапаноўвае Мінску пазыкі па досыць нізкіх стаўках, але што гэта за крэдыты! Кітайцы даюць кіраўніцтву Беларусі сродкі пры ўмове, што на іх будуць набыты кітайскія тавары і абсталяванне, а кітайскім рабочым і інжынерам будуць выплачаны грошы. А потым нам давядзецца яшчэ і вярнуць гэтыя пазыкі з адсоткамі.

Калі ж да гэтага дадаць, што кітайскае абсталяванне, пры дапамозе якога Лукашэнка праводзіць "мадэрнізацыю", часцяком нізкаякаснае і старое, замест стратэгічнага партнёрства атрымліваецца стратэгічная пастка. Беларусь трапіла ў яе праз тое, што не пабачыла

"Гандаль паміж краінамі — гэта на 80% кітайскі экспарт у Беларусь. Нашы ж дасягненні выглядаюць надта сціплымі. Напрыклад, паводле слоў эканаміста Леаніда Заікі, МАЗаў у Кітай мы летась прадалі ажно 17 штук".

розніцы паміж Расіяй, якая гатова выдаткоўваць датацыі дзеля "дружбы народов", і Кітаем, які ва ўсім свеце праводзіць выключна прагматычную палітыку.

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# ХАЛЯВА АД РАСЕЙСКАГА ІВАНА

Ужо амаль два месяцы ў Навабеліцкім раённым судзе Гомеля судзяць грамадзяніна Расеі Яна Панчанку. Судзяць? Судзяць і ніяк засудзіць не могуць.

## НА АГУЛЬНУЮ СУМУ 238 МІЛЬЁНАЎ

Суддзя Сяргей Новікаў, які разглядае крымінальную справу ў дачыненні да расейца, нават не бярэцца прагназаваць, калі яна можа быць завершана.

"Даслалі ў міліцыю спіс пацярпелых, якіх павінны прымусова даставіць у суд для сведчання па справе", – кажа суддзя.

Яна Панчанку вінавацяць у шматразовым махлярстве ў буйным памеры. Праз падман расеец угаворваў гамельчукоў браць у крэдыт мабільнікі, ноўтбукі, планшэты – і такім чынам падмануў многіх гараджанаў на дзесяткі мільёнаў рублёў. Следства зафіксавала 40 эпізодаў падману на агульную суму 238 мільёнаў, а пацярпелых у крымінальнай справе пра махлярства Панчанкі ажно 23 чалавекі – у Гомелі і Рэчыцы.

Гамельчукі набралі ў крэдыт для расейскага грамадзяніна 10 ноўтбукаў, 6 пляншэтаў, 19 мабільных тэлефонаў, тэлевізар LG і нават залаты ланцужок.



*Бясплатны сыр толькі ў…*

Следчы Дзмітры Сямкоў, які даследаваў "фінансава-крэдытную дзейнасць" расейскага грамадзяніна, лічыць, што ён уціраўся ў давер людзям падкрэслена ўважлівым стаўленнем, разнастайнымі падходамі. Часцяком гуляў на схільнасці сваіх ахвяраў да алкаголю. Нездарма цяпер частку пацярпелых трэба вышукваць міліцыі.

Віну сваю 38-гадовы ўраджэнец Калужскай вобласці Ян Панчанка, які ўжо адбываў у сябе на радзіме пакаранне за падобныя справы, у судзе не прызнаў і папрасіў дазволу даць сваё тлумачэнне пасля паказанняў пацярпелых. Выглядае, разумеў сітуацыю: наўрад ці міліцыя прыцягне за шкірку ў суд усіх пацярпелых.

"Мне ж дадому прыйшлі паперы, і я плачу, бо інакш судовы выканаўца прыйдзе і апіша маю маёмасць, якую я нажывала крывавым мазалём. Сын жа ў мяне прапісаны! Мне шкада, калі маёмасьць забяруць, таму я і сплачваю крэдыт. А пенсія ў мяне – паўтара мільёна. Я яму галаву адсекла б за такое махлярства".

Адным з першых у судзе сведчыў жыхар Рэчыцы Уладзімір Смольскі. Да яго Панчанка двойчы прыязджаў па аб'яве ўвосень 2011 года, каб набыць ужываны аўтамабіль маркі «Форд». Забраць аўтамабіль забраў, а абяцаныя за яго 1000 долараў так і не вярнуў.

## ВЫПІВАКАМ, ВЯДОМА, МІНІМАЛЬНА

Падсудны Панчанка тлумачыў у судзе, што аўтамабіль зламаўся – і плаціць такую суму не было рацыі:

*Заканчэнне на стар. 8*

# У БЕЛАРУСКІХ БАНКАЎ СКОНЧЫЛІСЯ ГРОШЫ?

**У той час, як усе ўважліва сочаць за валютным курсам, беларускія банкі імкнуцца адабраць у насельніцтва рублі. Робяць яны гэта звычайным і цікавым чынам.**




*І зноў усё пра яго*

«Беларусбанк» і «Белаграпрамбанк» рэзка павысілі працэнтныя стаўкі па дэпазітных укладах і сэртыфікатах. Іншыя банкі таксама не адстаюць. «Ідэя Банк» павялічыў уклад «Летні» да 33% гадавых, «МТ-Белкі» ад «МТБанка» скокнулі ўгору з 28 да 32% гадавых, уклад «Надзейны» ад «Дэльта Банка» 12 чэрвеня таксама вырас да 32%.

Шмат хто падумаў, што такі імклівы рост дэпазітных ставак вельмі выгадны Нацбанку. З той прычыны, што высокія дэпазітныя стаўкі спрыяюць захаванню рублёвых укладаў. Старшыня Нацбанка Надзея Ермакова прызнала, што толькі за першыя дзесяць дзён ліпеня беларусы перавялі з рублёвых укладаў у валютныя ажно трыльён рублёў. Маўляў, высокія стаўкі па дэпазітах робяць нявыгадным перавод рублёў у валюту.

## САМІ БАНКІ ПЕРАЖЫВАЮЦЬ КРЫЗІС?

Але адмыслоўцы кажуць, што не толькі з-за попыту на валюту беларускія банкі ўзнялі працэнты па ўкладах. І нават магчыма, што Нацбанк нічога ім не падказваў. Можа, крызіс напаткаў самі банкі, без усялякіх там валютных крокаў і дзеянняў Нацбанка.

Былы кіраўнік гэтай структуры **Станіслаў Багданкевіч** у інтэрв'ю **"Тут і цяпер"** выказаў меркаванне, што беларускім банкам зараз проста не стае грошай. "На мой погляд, павышэнне ставак па дэпазітах звязана з крызісам ліквіднасці ў саміх банкаў. Крэдыты яны выдавалі, але іх дагэтуль няма. У выніку ўзнік недахоп грошай. А ў выпадку поўнай адсутнасці ліквіднасці банк з'яўляецца банкрутам і не можа далей ажыццяўляць фінансавыя аперацыі", — кажа Багданкевіч.

Па яго словах, каб пераадолець крызіс ліквіднасці, банкі могуць узяць рэсурсы альбо на свабодным крэдытным рынку, альбо ў Нацыянальнага банка. Але ж атрымліваць такія крэдыты даволі марудна. А стаўка рэфінансавання Нацбанка, хоць і складае 23,5%, дый стаўка міжбанкаўскага крэдыту (па якой можна атрымаць рэальныя грошы) ўжо сягае пад 40%.Гэта вельмі дарагія крэдыты. "Таму самы просты шлях для банкаў здабыць ліквіднасць (то бок грошы) — гэта павялічыць стаўкі па ўкладах і заклікаць насельніцтва несці грошы ў банк", — мяркуе Багданкевіч.

З гэтым меркаваннем згодны і **аналітык «Ліберальнага клуба» Антон Болтачка**. Па яго словах, праблема ліквіднасці для банкаў ускладняецца тым, што хутка надыходзіць тэрмін адлічэнняў па нормах рэзервавання. "Банкі зараз шукаюць грошы не толькі ў насельніцтва, але і на міжбанкаўскім рынку. Стаўка па міжбанкаўскіх крэдытах у 40 працэнтаў – гэта сапраўды вельмі сур'ёзна", — кажа Болтачка.

## ЦІ "ПРЫ ЧЫМ" ТУТ НАЦБАНК

Але ж людзі звязваюць павышэнне ставак па дэпазітах менавіта з ростам курса долара. Ці не мог Нацбанк даць указанне банкам павысіць дэпазіты, каб спыніць перавод рублёвых укладаў у валютныя?

Тэарэтычна гэта, канечне, магчыма, кажа Багданкевіч. Але… "Што тычыцца ўказання Нацбанка з мэтай стабілізаваць валютны рынак, то я крыху сумняваюся. Галоўны банк краіны мог павысіць стаўку рэфінансавання, каб і астатнія банкі павысілі стаўкі па дэпазітах і крэдытах. Але ж гэтую стаўку ён не павышае, а даваць указанні банкам павысіць стаўкі… Такое можа быць тэарэтычна", — мяркуе Багданкевіч.

"Канечне, не выключана, што Нацбанк з дапамогай тэлефоннага права мог рэкамендаваць павысіць стаўкі для прыцягнення беларускіх рублёў. Нацбанк, безумоўна, не жадае, каб ціск на курс нацыянальнай грашовай адзінкі павялічваўся з-за жадання насельніцтва купіць замежную валюту", — кажа Болтачка.

**АФІЦЫЙНА**

## ЗАЛАТЫ ЗАПАС НАЦБАНКА БЕЛАРУСІ ЗА І ПАЎГОДДЗЕ ВЫРАС НА 500 КГ — ДА 33,8 Т

Такая інфармацыя размешчана на афіцыйным сайце Нацбанка, паведамляе БелТА.

Як растлумачылі ў Нацыянальным банку, залаты запас павялічыўся за кошт куплі каштоўных металаў у Міністэрства фінансаў, а таксама за кошт перапрацоўкі некандыцыйных зліткаў у банкаўскія кандыцыйныя, якія былі залічаны на металічныя рахункі. Пры гэтым у планах у Нацбанка — павелічэнне залатога запасу, нягледзячы на зыходны трэнд па золаце на сусветным рынку. Зніжэнне цэн на золата – часовая тэндэнцыя, лічаць эксперты.

За 2012 года залаты запас Нацыянальнага банка павялічыўся на 1,6 т і склаў 33,3 т на 1 студзеня 2013 года. У 2011 годзе залаты запас Нацыянальнага банка Беларусі вырас на 400 кг.

Залаты запас Нацбанка Беларусі вылічваецца ў тонах і ўключае золата (91,5 працэнта), а таксама серабро, плаціну і паладый.

Высвятленне пытання “пры чым” тут Нацбанк альбо “ні пры чым” сітуацыю не зменіць. Стаўкі ўжо такія, як ёсць. Але чым гэта пагражае беларусскай эканоміцы?

## ЭКАНОМІКУ “ПРЫСПУСЦЯЦЬ”

Павышэнне стаўкі па дэпазітах пацягне за сабой і павышэнне крэдытнай стаўкі, упэўнены Багданкевіч. “У нявыгаднай сітуацыі апынуцца нашы прадпрыемствы, якім трэба аддаваць пазыкі. Крэдыты становяцца больш дарагімі, а значыць, падаражэе ўжо выробленая прадукцыя, якую мы і так прадаць не можам з-за яе высокага кошту. Усё гэта ў комплексе эканоміцы Беларусі не спрые”, — кажа ён.

Антон Болтачка лічыць, што Нацбанк такімі дзеяннямі не дабаўляе рынку стабільнасці. Павышэнне курса долара, павышэнне ставак па дэпазітах могуць скласці ўражанне, што фінансавы рынак няўстойлівы. І таму людзі, не выключана, пабягуць у абменнікі, пабачыўшы самае нязначнае ваганне курсу валют. “Карацей кажучы, такія паводзіны могуць прывесці да таго, што Нацбанку прыйдзецца падтрымліваць курс з дапамогай рэзерваў, якія не такія ўжо і вялікія, нягледзячы на дэкларацыі адказных асоб”, — лічыць Болтачка.

## НАДЗЕЯ НА ТОЕ, ШТО ЛЮДЗІ ПАНЯСУЦЬ ГРОШЫ Ў БАНКІ

Вельмі сумніўная надзея, адзначае яшчэ адзін эканаміст, Леанід Злотнікаў. “Адказаць на пытанне, панясуць ці не панясуць людзі грошы ў банкі, вельмі складана. З аднаго боку, панясуць. Але пытанне ў тым, хто, колькі і што гэта будзе — мільярды, мільёны альбо тысячы рублёў”, — кажа Злотнікаў.

Таму, калі Нацбанк мяркуе такім чынам адцягнуць “лішнюю” рублёвую масу ў насельніцтва, гэта ў яго наўрад ці атрымаецца.

Што ж тычыцца банкаў, то яны могуць пераадолець крызіс ліквіднасці. Але, калі яны гэтага ўсё ж не зробяць, то, магчыма, нас чакае сур’ёзны банкаўскі крызіс. З усімі вядомымі наступствамі.

**СЯРГЕЙ КОЎШ**

# У АШМЯНСКАГА ФЕРМЕРА ЗАБІЛІ 600 СВІНЕЙ

**Захады супраць распаўсюду вірусу афрыканскай чумы свіней у выглядзе масавага знішчэння пагалоўя з калгасных фэрмаў і прыватных падворкаў абарочваюцца ня толькі матэрыяльнымі, але і маральнымі стратамі.**



*Невядомасць – горшая абарона*

Фэрмэр з Ашмянскага раёну на Гарадзеншчыне Іван Гарлуковіч у адзін дзень страціў усё, да чаго ішоў доўгія гады, — свіны статак у 600 галоў. Як жыць далей? Разам са збанкрутаваным фэрмэрам такім пытаньем задаюцца ўсё больш беларусаў.

Аднавяскоўцы Івана Гарлуковіча ў шоку: вэтэрынары за дзень усыпілі ўсіх свіней у гаспадарцы пасьпяховага прадпрымальніка. На фэрме ў вёсцы Наваполле пад Ашмянамі, дзе раней вірвала жыццё, цяпер магільная ціша: «Так, усіх забралі, падчыстую. Цяпер у вёсцы, мусіць, ні ў кога свіней не засталося — людзі са страху пакалолі без часу, каб толькі не аддаваць. У нас тут у асноўным старыя жывуць, дык і так няшмат трымалі, можа, хаты дзве-тры. Але і тыя ўсіх парэзалі».

**Карэспандэнт: «А ў фермэра шмат свіней было?»**

«Ну, так, дзесьці 600 зь лішкам галоў. Была вялізная сьвінафэрма. Таму ўдар быў для яго вельмі моцны».

Сам Іван Гарлуковіч да размоваў ня надта ахвочы — ад такой страты адысці няпроста. Запытваю — дык ці сапраўды забралі ўсё падчыстую?

«Ну, як забралі? Не забралі, а закапалі, зьнішчылі, нічога не пакінулі... Але ведаеце, не хачу я гаварыць гэта па тэлефоне...»

Марыя Антонаўна, маці пацярпелага фэрмэра, у роспачы: столькі гадоў руплівай працы сына закапана разам з усім статкам: «Усіх забралі, мой ты панок, няма ніводнага (плача). І гэта ж ні карантыну ніякага не было, нічога. Выклікалі гарадзенскіх лекараў, тыя сказалі, што ходзіць нейкая чума ці штосьці такое. А цяпер людзі гавораць, як хто хоча. Я во толькі з касцёла, дык чула, як казалі — гэта ён наўмысна зрабіў, нейкай атруты даў сьвіньням. Што за глупства? Нашто ж так абгаворваюць? Божа мой, божачка. Я дык, вядома, ужо старая, што мне адмерана — большага не трэба. Цяпер прашу ў боженькі, каб толькі майму сыночку паслаў здароўечка. Павінна ж быць нейкая справядлівасць. Падумаць толькі — усю фэрму забралі! Можа, хоць нешта падкінуць — жыць за што?»

І хоць на Гарадзеншчыне карантын афіцыйна абвешчаны толькі ў вёсцы Чапунь Іўеўскага раёну, геаграфія барацьбы з вірусам афрыканскай чумы імкліва пашыраецца.

Як у выпадку з гаспадаркай Івана Гарлуковіча, якая дагэтуль фармальна не трапляла ў небяспечную зону, «свіныя ліквідатары» працуюць у Валожынскім, Карэліцкім, Наваградскім, а цяпер і ў Ашмянскім раёнах.

Апроч таго, татальная зачыстка падворкаў ідзе ў шэрагу рэгіёнаў Мінскай, Брэсцкай і Віцебскай абласцей.

Найбольш балючыя для людзей пытаньні — ня толькі прымусовае зьнішчэньне свіного пагалоўя, што наўпрост адбіваецца на харчовай бясьпецы, а і абяцаная кампэнсацыя стратаў. Як кажуць жыхары вёскі Козевічы побач з «чумным эпіцэнтрам» у Чапуні, свіней у іх забралі яшчэ пры канцы чэрвеня, а грашовых разлікаў няма дагэтуль:

«16 тысяч рублёў за кілаграм — такую абяцалі кампэнсацыю. І тое з умовай: якое само пала — за яго, натуральна, нічога, але якое прымусова забіраюць — здаровае ці нездаровае — за тых абяцалі заплаціць. Бо гэтыя службы не цырымоняцца: усыпляюць — і забіраюць».

**Карэспандэнт: «Выглядае, што сама меней год нельга будзе свіней трымаць?»**

«Ды што год? Можа, два, а можа, і тры. Ніхто ня ведае. Нехта казаў, што менш як на два гады можаце нават не разлічваць. Але некаторыя настройваюць, што тры гады — гэта яшчэ добра будзе».

Паводле інфармацыі Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, афрыканскую чуму свіней занеслі ў Беларусь разам з імпартаванымі камбікармамі.

Аднак жыхары пацярпелых вёсак лічаць, што вірус прыйшоў з Налібоцкай пушчы, вакол якой і гуртуюцца ачагі афрыканскай чумы: «Адкуль гэтая навала? А хто ж яго ведае! У нас тут людзі думаюць, што ад дзікоў зь лесу прыйшла, адкуль яшчэ гэтая чума магла з’явіцца? Бо ў нас тут столькі дзікоў, уявіць сабе не можаце: бульба была, дык не толькі поле, усе дарогі вакол перарылі. А потым мор пачаўся: да апошняй хаты ў вёсцы парасяты прыйшлі ды ўсе паздыхалі пад плотам. Забіралі адтуль днямі. Дык калі ўжо гэтая зараза дзікоў узяла, то хатніх свіней тым больш паваліць.

**ІГАР КАРНЕЙ**

# БЕЛАРУСЬ НА ПАРОЗЕ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАТАСТРОФЫ

Так лічыць экс-прарэктар БДУ кандыдат хімічных навук Анатоль Паўлаў.

– Гэта маё асабістае меркаванне, з ім можна і не пагаджацца. Але я сапраўды лічу, што мы знаходзімся на мяжы нацыянальнай катастрофы, — б'е ў званы Анатоль Васільевіч. – Усім вядома, што ў 21-м стагоддзі з малатком і кувалдай ужо нічога не зробіш. У наш час чалавек зарабляе сабе на жыццё толькі мазгамі. А інтэлектуальны патэнцыял нашай моладзі з кожным годам паніжаецца. Вось дзе бяда!

У мінулым Нацыянальны інстытут адукацыі прыводзіў даныя аб тым, што асноўная маса маладыхлюдзей на цэнтральным тэсціраванні атрымлівае ў сярэднім 30 балаў. Гэта вельмі мала! А сённяшнія лічбы сведчаць пра тое, што амаль 36% навучэнцаў не атрымалі сертыфікат — па некаторых прадметах набралі ўсяго 15–20 балаў. Гэта ўвогуле нуль! А колькі тых, хто атрымлівае сертыфікат, але ўзровень падрыхтоўкі і ведаў мае не нашмат вышэйшы, чым тыя, хто застаўся без сертыфіката…

Абітурыенты, якія набралі на тэсціраванні больш за 50 балаў, пляскаюць у ладкі і крычаць: "Ура!" Але, на мой погляд, радавацца тут няма чаму, бо, калі ўводзіцца сістэма тэсціравання, то большасць павінна здаваць тэсты хаця б на 80 балаў.

Чаму так дрэнна здаюць тэсціраванне, пытанне асобнае. Дарэчы, варта заўважыць, што тэсты, у параўнанні з папярэднімі гадамі, становяцца больш простымі.

У свой час я ўзначальваў гаркам прафсаюзаў адукацыі Мінска. Дык яшчэ 13 гадоў таму да мяне прыходзілі школьныя педагогі і наракалі на дрэнную падрыхтоўку маладых спецыялістаў — выпускнікоў ВНУ. А вышэйшая школа абуралася, што ў ВНУ ідзе слабая моладзь. Кола замкнулася, бо ўжо даўно пытанні эканоміі бюджэтных сродкаў вырашаюцца за кошт адукацыі і медыцыны. Вынік відавочны...

Сёння ў моладзі няма стымулу вучыцца. Калі чалавек з вышэйшай адукацыяй зарабляе менш, чым грузчык, то дыплом патрэбен толькі для птушкі. Выключэнні, вядома, ёсць, але іх так мала, што яны не радуюць.

Паглядзіце, што робіцца ў школе. Прадметы, па якіх не плануецца здаваць тэсціраванне, выпускнікі наогул не вучаць! Тыя, каму патрэбна матэматыка ці хімія, робяць упор выключна на гэтых прадметах. Але выпускнікі не ведаюць ні гісторыі, ні літаратуры. Дык якіх жа мы асоб выхоўваем?!

Якраз днямі Уладзімір Пуцін сустракаўся са студэнтамі-географамі. Яны запыталіся ў яго: ці праўда, што ў выніку чарговай школьнай рэформы са школьнай праграмы будуць выдалены некаторыя прадметы, у тым ліку і геаграфія. Пуцін засмяяўся: маўляў, калі выдаліць геаграфію, то каго мы тады выгадуем?



*А тэсты ўсё красамоўней*

Я ў савецкі час дакладна ведаў, што, скончыўшы ўніверсітэт, без працы і грошай не застануся. А калі яшчэ абараню і кандыдацкую або доктарскую, то наогул буду забяспечаным чалавекам. І конкурс на фізфак быў 10–11 чалавек! Людзі імкнуліся атрымаць адукацыю.

Зараз крычаць: няма інжынераў! А іх і не будзе. Паглядзіце, з якімі баламі паступаюць на той жа фізфак. Мне яшчэ гады тры назад дэкан фізфака скардзіўся, што першы год ва ўніверсітэце даводзіцца вывучаць са студэнтамі асновы школьнай матэматыкі і фізікі. І гэта пры тым, што ў ВНУ адбіраюць лепшых.

Падчас святкавання Дня незалежнасці Аляксандр Лукашэнка хваліўся, што мы зможам даць адпор любому. З кім, скажыце, мы будзем даваць той адпор, калі неўзабаве не будзе каго набраць на афіцэрскія пасады?

Паглядзіце, з якімі баламі паступаюць у апошнія гады ў Акадэмію міліцыі? А што будзе гадоў праз пяць, калі гэтыя людзі зоймуць высокія пасады? Ужо сёння ў рэгіёнах неадукаваныя людзі спрабуюць кіраваць...

Вундэркінды ў беларускіх ВНУ, без сумневу, таксама ёсць, але іх можна пералічыць на пальцах. І практычна ўсе яны з'язджаюць з Беларусі туды, дзе лепшыя ўмовы жыцця і неблагія заробкі. А з чым застаемся мы? Ну хіба гэта не нацыянальная катастрофа?

І мне вельмі шкада, што беларуская апазіцыя не засяроджвае ўвагу на гэтай праблеме. Размова ж ідзе пра будучыню нашай краіны і нацыі ўвогуле...

Я лічу, што гэта тэма для вельмі сур'ёзнай размовы, вялікай дыскусіі. Пытанне аб тым, што будзе далей, павінна хваляваць кожнага з нас.

**МАРЫНА МІТ**

**ДА ВЕДАМА**

## ВЫНІКІ ТЭСТАВАННЯ СЁЛЕТА І ЛЕТАСЬ:

| 2013 год | прадмет | Не набралі неабходныя балы | Выдатнікі | Колькасць удзельнікаў | Не набралі ніводнага бала |
|---|---|---|---|---|---|
| | Фізіка | 37% | 46 | 35 763 | 66 |
| | Матэматыка | 32,7% | 146 | 76 021 | 111 |
| | Руская мова | 8% | 39 | 83 829 | 16 |
| | Грамадстваэнаўства | 6,9% | 7 | 7 672 | 2 |
| | Біялогія | 5% | 4 | 24 658 | 4 |
| | Беларуская мова | 5% | 6 | 33 564 | 4 |

| 2012 год | прадмет | Не набралі неабходныя балы | Выдатнікі | Колькасць удзельнікаў | Не набралі ніводнага бала |
|---|---|---|---|---|---|
| | Фізіка | 9% | 2 | 44 119 | 41 |
| | Матэматыка | Каля 9% | 46 | 95 161 | 796 |
| | Руская мова | 3% | 19 | 95 896 | 3 |
| | Грамадстваэнаўства | 0,2% | 5 | 9 440 | 2 |
| | Біялогія | 0,15 % | 7 | 28 636 | 3 |
| | Беларуская мова | 2,65% | 7 | 45 199 | 1 |
| | Хімія | 30 чалавек | 17 | 16 687 | 3 |
| | Геаграфія | 8 чалавек | 3 | 2 363 | 0 |
| | Гісторыя Беларусі | 0,05% | 16 | 21 653 | 1 |
| | Сусветная гісторыя | 3 чалавекі | 0 | 1 873 | 0 |

# АПАЗІЦЫЯНЕР? ГАЗУЙ ЯГО!

**Так ці не так, але выглядае, што з нядаўняга часу калінкавіцкая міліцыя стала чытаць заявы грамадзян па прынцыпе "шыварат-навыварат". Асабліва калі гэта тычыцца заяў вальнадумцаў, тым больш апазіцыянераў.**

Яшчэ ў красавіку сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі Дзяніс Рабянок з Калінкавічаў падаў заяву ў міліцыю. Ды як было не падаць?! Суботнім ранкам Дзяніс выйшаў на свой уласны суботнік – прыбраць клумбу пад балконам. Такая ініцыятыва з нейкай прычыны прыйшлася недаспадобы суседу Рабянка Уладзіміру Жыгару, які не раз чапляўся да апазіцыйнага актывіста. Гэтым разам — за тое, што ён нібыта перашкаджае адпачываць. "Праклятыя апазіцыянеры, вас трэба высяляць, як кажа наш прэзідэнт", — абурыўся Жыгар.

Рабянок яму ў адказ: "Супакойся ды ідзі палячыся, калі ў цябе нервы".

## ЛЯЧЫЎСЯ… АПАЗІЦЫЯНЕР

Здавалася, што на гэтым канфлікт і скончыўся. Аднак крыху пазней Уладзімір Жыгар заўважыў Дзяніса ў двары: той вынес смецце і вяртаўся дадому. Сусед выскачыў з машыны, падбег да Рабянка і пырснуў яму ў вочы слезацечным газам з балончыка.

Напад бачыла маці Дзяніса. Жанчына выклікала сыну хуткую медыцынскую дапамогу і паведаміла пра інцыдэнт у міліцыю. Медыкі забралі Дзяніса ў бальніцу, аказалі яму першую дапамогу. Мужчына яшчэ тыдзень лячыўся ў афтальмолага з прычыны хімічнага апёку вачэй.

Дзяніс Рабянок падаў у міліцыю заяву з просьбай прыцягнуць нападніка да адказнасці. Аднак праз два тыдні апазіцыянер атрымаў копію пастановы, накіраванай у суд за подпісам намесніка начальніка Калінкавіцкага райаддзела міліцыі Станіслава Расошкі і ўчастковага інспектара Уладзіміра Паўловіча: Дзяніса вінавацілі ў развязванні бойкі і нанясенні лёгкіх цялесных пашкоджанняў таму самаму Уладзіміру Жыгару. Апошні, дарэчы, праз два дні пасля інцыдэнту прадставіў даведку судмедэксперта аб тым, што ў яго пашкоджана губа і ёсць сінякі на плячы і сцягне.

Скаргі Дзяніса Рабянка ў міліцыю і пракуратуру выніку не мелі – яго пачалі судзіць.

## "ДАВАЙ МІРЫЦЦА"

На першае судовае пасяджэнне, якое адбылося ў траўні, Уладзімір Жыгар наогул не прыйшоў – даручыў прадстаўляць свае інтарэсы адвакату. Аднак суддзя Уладзімір Міцуля, які разглядаў справу, праз адваката выклікаў Жыгара на пасяджэнне і папярэдзіў: у наступны раз няяўка будзе разглядацца як непавага да суду.

У судзе Жыгар заявіў, што гатоў пайсці з апазіцыянерам на міравую, але Дзяніс Рабянок не пагадзіўся на такую прапанову, бо міравая азначала б для яго не што іншае, як прызнанне таго, што ён сапраўды нанёс Жыгару нейкія пашкоджанні.

Рабянок: "Я з ім не толькі не біўся, я нават не лаяўся. Толькі сказаў, каб ён лячыўся, калі нервы не ў парадку. Ён пырснуў мне ў вочы слезацечным газам і з дапамогай міліцыі робіць мяне вінаватым".

Адвакат актывіста падавала скаргу ў міліцыю на аднабокую выснову ў дачыненні да інцыдэнту паміж Жыгарам і Рабянком, аднак адказу з суда не дачакалася. Незразумела таксама, чаму міліцыя не накіравала Дзяніса на судмедэкспертызу з прычыны апёку вачэй слезацечным газам. Выснова наконт добрага стану здароўя апазіцыянера

> "Выснова наконт добрага стану здароўя апазіцыянера была зроблена экспертам праз шэсць дзён пасля нападу на падставе выпіскі з медыцынскага дакумента, але без уліку апісання пашкоджання вачэй, зафіксаванага медыкамі хуткай дапамогі. .

была зроблена экспертам праз шэсць дзён пасля нападу на падставе выпіскі з медыцынскага дакумента, але без уліку апісання пашкоджання вачэй, зафіксаванага медыкамі хуткай дапамогі. Акрамя таго, яшчэ няясна, які слезацечны газ быў ужыты супраць Рабянка.

Суд напачатку спрабаваў разабрацца з газам —"пацярпеламу" прапанавалі прынесці хаця б балончык. Аднак на наступным судовым пасяджэнні Жыгар патлумачыў: "Жонка нібыта выкінула балончык у сметнік", — і суд супакоіўся.

## ШТРАФ ПАЦЯРПЕЛАМУ

Участковага інспектара Паўловіча ў судзе не было. Патлумачыць, чаму Дзяніса не накіравалі на судмедэкспертызу пасля падачы заявы ў міліцыю, не было каму. Участковы Паўловіч наогул склаў пратакол на апазіцыянера, не апытаўшы нават усіх сведкаў.

7 чэрвеня Уладзімір Міцуля прызнаў вінаватым апазіцыйнага актывіста ў нанясенні лёгкіх цялесных пашкоджанняў прадпрымальніку Уладзіміру Жыгару і аштрафаваў актывіста на 1 мільён рублёў.

Канечне, Дзяніс Рабянок не пагадзіўся з такім рашэннем суда і падаў скаргу ў вышэйшую судовую інстанцыю. На днях Гомельскі абласны суд адмяніў мільённы штраф актывісту. Адміністрацыйная справа пра так званае нанясенне актывістам лёгкіх цялесных пашкоджанняў прадпрымальніку Жыгару накіравана на новы разгляд у Калінкавіцкі раённы суд.

**АЛЯКСЕЙ КЛІМОВІЧ**




*Падаксальныя балончыкі ці нешта іншае?*

**ДАРЭЧЫ**

**Газавы балончык - аэразольнага прылада, падрыхтаванай слёзатачывымі або раздражняльнымі рэчывамі (ірытантамі), прызначанае для самаабароны ад людзей і агрэсіўных жывёл (сабак, а ў некаторых краінах вырабляюцца спецыяльныя балончыкі ад мядзведзяў, павялічанага аб'ёму і далёкасці дзеяння).**

(З матэрыялаў Вікіпедыі).

# ХАЛЯВА АД РАСЕЙСКАГА ІВАНА

*Заканчэнне.*
*Пачатак на стар. 3*

*«Дамовіліся, я напісаў распіску – унёс пашпартныя звесткі. Праз паўтара месяца я, здаецца, павінен быў разлічыцца. У сына Смольскага ўзяў тэлефоны – яго і бацькі. Прыехаў дадому. Яны патэлефанавалі мне вечарам: як даехаў? Здавалася, усё было нармальна. А раніцай пачаў выязджаць, машына не заводзіцца".*

Праўдападобна, з гэтага эпізоду і пачалася бурлівая прадпрымальніцкая дзейнасць расейца, пік якой прыпаў на мінулагоднюю лета. У ягоны нерат траплялі пераважна людзі, схільныя да выпіўкі альбо беспрацоўныя. Галоўнае, каб пашпарт у чалавека быў у парадку. Ян умеў пусьціць пыл у вочы, увайсці ў давер як рэспэктабэльны чалавек з вялікімі сувязямі і фінансавымі магчымасцямі ў Расеі. Ён завёў у Навабеліцы сужыцельку, як цяпер кажуць, грамадзянскую жонку. Шмат каму абяцаў працу, вазіў нават пад Гомель на ўчастак капаць траншэю нібыта пад фундамэнт будучага свайго катэджу. Некаторым за ўзятыя ў крэдыт мабільнік ці ноўтбук плаціў 50–200 тысяч рублёў – у залежнасці ад выгляду чалавека. Выпівакам, вядома, мінімальна.




*Замест халявы часта прыходзіць жорсткае расчараванне*

## ГЭТА ВЫЛЕЗЕ БОКАМ

Малады пацярпелы гамяльчук Андрэй апавёў: «Ён падыходзіў, сам знаёміўся. Пагалоска сярод людзей пайшла, што нармальны чалавек, завуць Іванам. А насамрэч ён – Панчанка Ян Васільевіч. Ён падышоў, пагутарыў па-чалавечы: буду плаціць! Адрас даў свой, дзе на той момант жыў – ну, кватэру сваёй сужыцелькі. Мы падыходзілі да пад'езда, ён жонку клікаў. Напаказ, вядома. Потым прапаноўваў: «Ты ў растэрміноўку афармляеш тэлефон – я табе заплачу за гэта 200 тысяч. Крэдытныя чэкі буду поўнасцю аплачваць. А ў выніку я атрымаў праз тры месяцы з банку ліст, што ў мяне запазычанасць».

Пенсіянерка Люба сплачвае цяпер крэдыт за сына, які патрапіў на кручок Яна, набыўшы для яго мабільнік і планшэт:

*«У яго тэлефон – 4 мільёны 870 тысяч і планшэт – 4 мільёны 800 тысяч з лішкам. Агулам у межах дзесяці мільёнаў. Зараз яшчэ працэнты ўключылі – ужо 12 мільёнаў. Раней плаціла 520 тысяч на месяц, а цяпер – 720 тысяч. Мне ж дадому прыйшлі паперы, і я плачу, бо інакш судовы выканаўца прыйдзе і апіша маю маёмасць, якую я нажывала крывавым мазалём. Сын жа ў мяне прапісаны! Мне шкада, калі маёмасць забяруць, таму я і сплачваю крэдыт. А пенсія ў мяне – паўтара мільёна. Я яму галаву адсекла б за такое махлярства. Ён думаў, што гэтым разжывецца – прастакоў абдурыў і думаў, што разжывецца. Гэта бокам вылезе».*

Крэдыты па пакупку тэхнікі расейскі махляр са сваімі ахвярамі афармлялі праз "Хоум крэдыт банк", "Дэльта-банк", "МТБ-банк", "Сомбел-банк", а таксама праз дылераў аператара сотавай сувязі "Лайф".

## ПРОСТА "ЖЭСЦЬ"

Мужчына сярэдніх гадоў, які назваўся Ігарам, падман самога сябе патлумачыў проста: *"Хацеў выпіць, а грошай не было. Ян даў мне халяўных 200 тысяч, а я ўзяў яму крэдыт. Аказалася, што сабе".*

Дваццацічатырохгадовы гамяльчук Ілля аформіў на сябе цэлых пяць крэдытаў – усе на пакупку для Панчанкі не толькі тэлефона, ноўтбука, але і тэлевізара, і нават залатога ланцужка:

*"Гэта мая памылка. Мне трэба было ўжо пасля першага ці другога крэдыту сказаць: "Ванечка, хопіць! Вот заплаціш, тады будзем думаць пра новы крэдыт". Але ён настолькі ўмеў пераконваць, настолькі ён прафесійны падманшчык, што проста "жэсць". Пры маім месячным заробку каля трох мільёнаў, я мусеў напачатку аддаваць за крэдыты 2 мільёны 300 тысяч. Я ж просты чалавек, я імкнуся ўсімі сіламі зарабіць сваю капейку, нікога не падмануць, нікому не зрабіць балюча".*

Даверлівых гамельчукоў ўразіла і яшчэ адна акалічнасць у паводзінах заезджага камбінатара: ён чытаў Евангелле, ці проста рабіў выгляд, што чытае. Гэта таксама падкупала.

Ілля расказаў, што падчас вочных ставак Іван-Ян стараўся нікога са сваіх ахвяраў не пазнаваць альбо нахабна смяяўся ім у твар.

**АЛЯКСЕЙ КЛІМОВІЧ**



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 18.07.13
Тыраж 299 экзэмпляраў